Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1—20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1—20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 11 (33) ВІЛЬНЯ, 7 ЛІСТАПАДА 1938 г. ГОД III

## 950-годзьдзе хрышчэньня ўсходніх славян.

Сёлета мінае 950 гадоў ад прыняцьця хрысьціянскае веры ўсходнімі славянамі, г. ё. беларусамі, украінцамі і расейцамі. Гэты юбілей ужо абходзяць украінцы і расейскія эмігранты, раськіданыя па ўсіх гаспадарствах сьвету, ладзячы апрача царкоўных багаслужэньняў і адумысныя грамадзкія ўрачыстасьці. У расейскай і ўкраінскай прэсе шырока гаворыцца аб значэньні гэтага юбілею і выпушчаюцца ў сьвет адпаведныя выдавецтвы.

Юбілей гэты мае бяспрэчна і для беларусаў вялікае значэньне. Ён знайшоў ужо свае адбіцьцё ў частцы беларускае прэсы. Пасьвяцім гэтыя ўвагі яму і мы.

Гаворачы аб гэтым вялікім здарэньні ў гісторыі беларускага народу трэба перш-на-перш вызваліцца ад двух фікцыяў: 1) Ня трэба думаць, што ўсе ўсходнія славяне, а ў іх ліку і беларусы, адразу ў вадным 988 г. адкінулі паганскую рэлігію і замянілі яе хрысьціянскай. Паганская вера яшчэ доўга існавала між імі, а ў 988 г. хрысьціянства было прынята ў найлепшым прыпадку толькі вярхамі грамадзянства. Таму значэньне 988 г., як даты прыняцьця хрысьціянства ўсходнімі славянамі, ёсьць толькі **сымбалічнае**. Гэта, аднак, не памяншае яго ролі, бо год гэты здэцыдаваў рашуча аб наступленьні новай эры ў жыцьці ўспомненых народаў. 2) Назоў „Русь“ у сувязі з азначэньнем гэтага юбілею расейцамі—„Крещеніе Русі“, — ня трэба разумець у сэнсе **этнаграфічным,** як хрышчэньне нейкай адналітай „рускай“ масы, а толькі ў сэнсе **палітычным.** Тэрмін „Русь“ азначаў тады Кіеўскую дзяржаву і за межы яе не расьцягваўся. Расейцы, стварыўшы фікцыю адзінага расейскага народу і загарнуўшы на гэтай аснове гісторыю беларусаў і ўкраінцаў, хочуць бачыць ужо ў гэту пару ў назове „Русь“ сэнс этнаграфічны, даглядаючыся тут нейкага аргумэнту на карысьць „адзінства расейскага народу“. У сапраўднасьці-ж, тэрмін праз іх ужываны „Крещеніе Русі“ азначае ня больш, як хрышчэньне Ўкраіны, бо тэрмін „Русь“ тасаваўся тады да Украіны і падлеглых ей земляў. Не абыймаў ён Беларусі. Ад гэтай расейскай фікцыі трэба быць вольнымі, падходзячы да ацэны гэтага вялікага здарэньня.

Прыняцьце хрысьціянскае веры засьпела беларускі народ тады, калі ён, перажыўшы пару плямennае арганізацыі, стварыў свае вялікія палітычныя цэнтры, як Полаччына, Смаленшчына, Турава-Піншчына і меншыя: Севершчына і Пскоўшчына. Гэтыя меншыя хутка апынуліся ў залежнасьці ад украінскага Кіева і расейскага Вялікага Ноўгарада. Ці да 988 году ў гэтых беларускіх гаспадарствах было ведама хрысьціянства, рашыць трудна. Некаторыя гісторыкі дапушчаюць магчымасьць адзіночных фактаў прыняцьця хрысьціянства ў Полацку, якое магло заносіцца варагамі, але цьверджаньне гэтае надта рызыкоўнае. Магчымасьць шырокага распаўсюджаньня хрысьціянства ў Беларусі зьявілася толькі ад 988 году. Пашыралася яно тут паступова, мірна, выцясьняючы паганства. Гэтым тлумачыцца, што яшчэ сяньня ў беларускім народзе ёсьць мноства астачаў даўнейшага паганскага сьветапагляду. Першымі беларускімі плямёнамі, між якімі хрысьціянства адразу моцна пашырылася, былі Крывічы, Северане і Дрыгавічы. Між Радзімічамі, а асабліва Вяцічамі, хрысьціянства прынялося значна пазьней, прычым гэтыя плямёны стаўлялі няраз заўзяты адпор прапаведнікам новай веры. Нямала згінула Радзімічаў і Вяцічаў у гэтай барацьбе, на што зьвяртае ўвагу ведамы расейскі дасьледчык царквы Галубінскі.

Поўная адсутнасьць беспасрэдных крыніц не дае магчымасьці прасьлядзіць разпаўсюджваньне хрысьціянства ў Беларусі зараз па 988 г., аднак трэба думаць, што ад прыбыцьця ў Полаччыну кн. Ізяслава і яго маткі Рагнеды хрысьціянства стала тут на моцныя асновы. Кіеўскі летапісец пераказвае нам, што князь гэты быў дужа рэлігійны і будаваў шмат цэркваў (у Полаччыне і Меншчыне). Яго наступнікі былі ўжо ўсе хрысьціянамі і не шкадавалі энэргіі дзеля ўмацаваньня новай веры. Залежныя, аднак, ад веча, яны не маглі тасаваць у пашырэньні новай веры ўсіх магчымых спосабаў, прыкл. „агню і мяча“, што часта ў тую пору спасьцерагалася ў іншых народаў.

Хрысьціянская вера была прынята ўсходнімі славянамі з Грэцыі. І хоць тады яшчэ ня было аканчальнага падзелу хрысьціянскае царквы на Усходнюю і Заходнюю, які наступіў толькі ў 1054 г., ўсёж трэба лічыць, што беларусы прынялі **ўсходняе** хрысьціянства, бо фактычна ў канцы Х ст. Канстантынопаль і Рым былі ўжо апрычонымі рэлігійнымі цэнтрамі. На гэта паказвае і пазьнейшая доля хрысьціянства ў Беларусі, якое, пасьля фармальнага падзелу Царквы, скрысталізавалася выразна як усходняе, грэцкае і гіерархічная залежнасьць беларускае царквы ад Кіева і Канстантынопаля, існаваўшая даўжэйшы час.

Прыняцьце хрысьціянства выклікала вялізарныя перамены ў камплексе жыцьця беларускага народу і прыгэтым перамены дадатныя. Памінаючы чыста рэлігійныя мамэнты, трэба адцеміць, што новы хрысьціянскі сьветапагляд ськіваваў на новыя шляхі **этыку** і **эстэтыку** народу, адбіўся на **сацыяльных адносінах** у тагачасным беларускім грамадзянстве, пхнуў наперад культурнае разьвіцьцё народу. Хрысьціянства прынясло да нас **пісьменства**, якое дагэтуль ня было ведама. Праўда, пісьменства гэта было спачатку выключна царкоўнае і ў іншай мове, бо царкоўна-славянскай (стара-баўгарскай), аднак ясным ёсьць, што гэтае царкоўнае пісьменства тварыла фундамэнты і сьвецкаму. Ці хрысьціянства прынясло да нас **асьвету,** зьяўляецца пытаньнем нявырашаным дзеля нястачы гіст. крыніц. Успомнены ўжо дасьледчык царквы Галубінскі трымаецца думкі, што хрысьціянства асьветы ўсходнім славянам не нясло, бо пісьменства яго мела мэты рэлігійныя, а школы—прыгатаваньне духавенства. Сьвецкаму насельніцтву ані гэтае пісьменства ані школы ня служылі і таму асьвета між ім не пашыралася. Калі з гэтым і пагадзіцца, дык усёж трэба сказаць, што самы факт паўстаньня пісьменнасьці рэлігійнай хоцьбы ў царкоўна-славянскай мове адчыняў дзьверы і пісьменнасьці сьвецкай у народнай мове, якая ў беларусаў запраўды хутка і зьявілася, стачатку, праўда, з дамешкай царкоўна-славяншчыны. У гэтым вялікае значэньне хрысьціянства,

Напасьледак скажам некалькі слоў аб значэньні хрысьціянства ў далейшай крысталізацыі беларускага народу, каторы, як этнаграфічная цэласьць, паўстаў яшчэ ў дахрысьціянскую пару. Тут наш адказ ня будзе гэткі прыхільны, як вышэй. Праўда, ён тлумачыцца ня столькі рольлю хрысьціянства як такога, колькі некарыснай для беларусаў гіерархічнай структурай тагачаснага духавенства ў Беларусі. Хрысьціянства спрычынілася да ўзмацаваньня нашага народу ў тым сэнсе, што шчыльней вязала пасобныя беларускія гаспадарствы і плямёны ніткай супольнае рэлігіі, этыкі, культуры, зносячы розьніцы між імі з гэтага гледзішча. Але ня трэба забывацца, што духавенства ў Беларусі залежала ад небеларускіх рэлігійных цэнтраў, часта варожых беларускаму народу. Гэта перашкаджала духавенству ў Беларусі стварыць „народную“ царкву, якая-б сьведама ўплывала на крысталізацыю народу і яно няраз выступала супроць інтарэсаў ўласнага народу. Толькі нейкі час ад 1295 г., калі была створана самастойная беларуская праваслаўная мэтраполія ў Наваградку, царква адыграла вялікую ролю ў зьбіраньні беларускіх земляў ў вадно беларускае гаспадарства. Наваградзкая мэтраполія, аднак, хутка заняпала; была адноўлена Вітаўтам, але ня вытрымала канкурэнцыі з Маскоўскай. Праўда тут ужо згулялі сваю ролю новыя рэлігійныя ўплывы, прыйшоўшыя ў Беларусь з Заходу, якія нязвычайна скамплікавалі рэлігійныя адносіны ў Беларусі, пазбаўляючы рэлігію магчымасьці ўплыву на фармаваньне беларускае народнасьці, як гэта было ў іншых народаў.

—•—

## ПАСЬЛЯ ПАДЗЕЛУ ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ.

Падзел Чэхаславаччыны ня прынёс успакаеньня. Праз увесь кастрычнік мы былі сьведкамі вялікай і глыбокай дыпляматычнай ігры, якая адбывалася каля Чэхаславаччыны, а лепш кажучы, каля яе часткі, званай Закарпацкай Русьсю, або Закарпацкай Украінай. Ігру вялі галоўна дзьве дзяржавы, Польшч і Вугрыя, якія хацелі мецъ супольную граніцу. У гэтую ігру былі ўгцянуты Румынія, Югаславія, Англія, Францыя—і ўрэшце справа была перададзена на вырашэньне дэцыдуючым дзейнікам у сярэдняй Эўропе: **Нямеччыне і Італіі.** Гэта вялікая дыпляматычныя ігра цікавая тым, што яна выявіла ўклад палітычных сіл у Эўропе і іх мэты. Але не забягайма наперад, а лепш разгледзім справу Чэхаславаччыны папарадку, гэта значыць, спачатку самую Чэхію, потым Славакію, а ўрэшце Закарпацьце.

**Чэхаславаччына**, агулам бяручы, пасьля катастрофы, перажыла глыбокі зрух. Некаторыя чэскія палітыкі датаго адчулі катастрофу, што доўгі час не маглі прыйсьці да сябе і пыталіся, як гэта магло стацца? Былі-жаж вайсковыя і абаронныя саюзы, былі подпісы здавалася магутных дзяржаў і раптам такая здрада! Пачалі дахадзіць прычын—і ўканцы дайшлі. Справа ў тым, што **Англія не хацела выступаць у абароне чэскіх інтарэсаў** (Англія выступае толькі ў абароне англійскіх інтарэсаў) і ў гэтым становішчы Англіі крыецца ўся прычына „здрады“ Францыі і Саветаў адносна Чэхаславаччыны. Гэта стала ясным з дыскусіі над справай Чэх. у англійскім парлямэнце. Чэмбэрлен заявіў так: выступленьне Англіі ў абароне Чэх. не ляжала ў англ. інтарэсах, але ляжала ў забавязаньнях Францыі. Францыя бяз Англіі выступаць не магла, значыць, **трэба было стварыць такое палажэньне, пры каторым не забавязана была-б выступаць такжа і Францыя.** — За стварэньне такога палажэньня ўзяўся Чэмбэрлен і „паляцеў“ да Гітлера. У рэзультаце захадаў Чэмб. такое палажэньне стварылася ў форме „мірнага“ падзелу Чэхаславаччыны. А калі „мірны“ падзел, значыць Францыя выступаць не забавязана, а калі Францыя не забавязана, дык не забавязаны і Саветы... Такім парадкам Англія ўсьцераглася ад вайны, якой не хацела і да якой не была прыгатавана, а без Англіі ня выступілі ані Францыя ані Саветы. Дык у гэтым антываенным становішчы Англіі і крыецца ўся прычына адхіленьня вайны ў грозныя верасьнёвыя дні.

У самой Чэхаславаччыне наступіў тады круты паварот: ад саюзу з Францыяй і Саветамі яна павярнула да саюзу з Нямеччынай, так, што цяпер дэцыдуючым дзейнікам ў Празе зьяўляецца Бэрлін. Камуністычная партыя разьвязана і забаронена, масонскія арганізацыі закрыты, жыды страцілі ўплывы і нават церпяць прасьлед, прэм'ер Сыровы з прыхільніка Саветаў стаў прыхільнікам фашызму. Словам,

Чэхаславаччына „фашызуецца“. Францыя і Саветы страцілі ў сярэдняй Эўропе пэўнага і адданага саюзьніка, які перайшоў у лагер фашыст. блёку.

Апроч гэтага Чэх. пачала праводзіць грунтоўныя нутраныя рэформы, якія выявіліся наўперад ў тым, што была дадзена **поўная аўтономія Славакіі і Закарпацкай Украіне,** якія будуць мець свае соймы і свае ўрады, а толькі ў агульна-дзяржаўных справах(загр. палітыка, войска, камунікацыя) будуць зьвязаны з Прагай. Гэтыя рэформы настолькі прывязалі славакаў і карпата-ўкраінцаў да Чэхаславаччыны, што яны адыходзіць ад яе ня хочуць і нават гатовы бараніць яе граніц. Ходзяць чуткі, што паводле новай канстытуцыі, якая распрацоўваецца, Чэхаславаччына зьменіць свой назоў на „Заходняя Славія“, або проста **„Славія“**. Значыць, няма такога ліха, якое-б ня выйшла на добрае: падзел Чэхасл. прымусіў чэскіх палітыкаў даць поўныя правы сваім меншасьцям! Асталося шкадаваць, што гэта сталася гэтак позна!

Але найцікавейшыя падзеі адбываліся **каля Закарпацьця**. Гэтая малая краіна (усяго 12 тысяч кв. км. і 700 тысяч насельніцтва) стала цэнтральным пунктам палітычнага змаганьня. Як мы ўжо ўспомнілі, гэтую краіну хацела далучыць да сябе Вугрыя, каб мець супольную граніцу з Польшчай. Вугрыю паддзяржалі Польшч і часткова Італія. Няяснае толькі было становішча Румыніі і Нямеччыны. Але і яно скора выясьнілася. Падарожа мін. Бэка ў Румынію і трохгадзінная гутарка з рум. каралём выясьніла, што Рум. дзейна выступаць проціў Чэх. і Закарпацьця ня будзе, што далучаць Закарпацьце да Вугрыі таксама ня хоча, бо жадае мець супольную граніцу ў Чэх. і баіцца Вугрыі, якая здабыўшы Закарпацьце, маглаб працягнуць руку і па рум. Семіградзьдзе, якое перад вайною належала да Вугрыі. З становішчам Румыніі зсалідарызавалася Югаславія, якая мае вугорскі Банат. А што датыча Немеччыны, дык у гітлероўскім афіцыяльным органе „Völkischer Beobachter“ зьявіўся артыкул, дзе пісалася так: у частцы франц. прэсы зьявіліся жаданьні, каб далучыць Закарпацкую Украіну да Вугрыі, бо гэта злучыць Вугрыю з Польшчай і спыніць імкненьне Нямеччыны на ўсход. Нямеччына такую палітыку ўважае за вырожую да сябе і ей проціўставіцца... Пасьля гэтакай заявы стала ясным, што Ням. не дазволіць далучыць ўсё Закарпацьце да Вугрыі, а пашукае ў гэтай справе **нейкага кампрамісу,** каб пакульшто не дражніць сваіх саюзьніц, Польшчы і Вугрыі.

Так яно і сталася. На канфэрэнцыі ў Вене (2. XI) Нямеччына і Італія **падзялілі Закарпацьце** на дзьве часьці, паўдзённая часьць адыйшла да Вугрыі, а поўночная асталася пры Чэхаславаччыне. Пры гэтым ня ўсюды быў захаваны этнаграфічны прынцып, бо да Вугрыі адыйшлі і мяшаныя ўкраінска-вугорскія мясцовасьці.

У справе Закарпацьця хадзілі розныя чуткі. Казалі напрыклад, што Нямеччына хоча там зрабіць украінскі Піэмонт — ядро, з якога зчасам выраслаб вялікая Украіна. Аб гэтым сьведчылі такія факты: перамена ў нямецкай прэсе назову „Закарпацкая Русь“ спачатку на „Закарпацкую Рутэнію“, а потым на „Закарпацкую Украіну“; увядзеньне ў нямецкае радыё (Вена і Ляйпціг) штодзенных украінскіх аўдыцыяў, у якіх востра выступаецца ў абароне Закарпацкай Украіны; назначэньне на прэм'ера закарп. ураду а. Валошына, сьведамага ўкраінца; тварэньне на Закарпацьці аддзелаў січовых украінскіх стральцоў імені Канавальца; пляны Гітлера, ідучыя да падзелу Саветаў, стварэньня Украіны і адкрыцьця сабе доступу да каўказкай нафты (Баку). Усё гэта мелаб сьведчыць, што Гітлер пры помачы Закарп. Украіны думае рэалізаваць свае пляны на Усходзе. Але як ёсьць сапраўды—няведама. Бо Ням. у сваіх усходніх плянах мусіць лічыцца як Польшчай, так і Вугрыяй—і калі-б яна выразла паставіла на Закарп. Украіну, трудна было-б ёй утрымаць саюз з гэтымі дзяржавамі.

А тымчасам на Закарпацьці падзеі разьвіваюцца.Першы прэм'ер закарпацкага ўраду Бродій адсунуты ад улады і арыштаваны. Яму закідаюць зносіны з Вугрыяй і імкненьне далучыць да яе ўсё Закарпацьце. Цяперашні прэм'ер а. А. Валошын ёсьць сьведамым украінцам і жадае аставіць Закарпацьце ў граніцах Чэхаславаччыны.

Гэтак выглядае справа Чэхаславаччыны. Прыглядаючыся ўважна да ўсіх гэтых спраў, трэба яшчэ раз адзначыць, што **першай праблемай,** якая высовываецца на парадак дня ў эўрапэйскай палітыцы, **ёсьць праблема нацыянальная.** Перад ею адыходзяць на другі плян праблемы сацыяльныя, а нават эканамічныя! Гэтую нацыянальную праблему вырашаць узялася расістоўская Нямеччына, ня так з прынцыпу як з тактыкі: карыстаючыся з запутаных нацыянальных праблемаў, Нямеччына думае пашырыць свае панаваньне на ўсход. Трэба прызнаць, што запутаннасьць нацыян. праблемаў, а такжа ахвота Нямеччыны распутаць гэтыя праблемы — робіць з Нямеччыны вялікую і грозную сілу ў вачох Саветаў і іншых. Толькі ці Нямеччына распутае гэтыя праблемы? Мы баімся, што яна можа запутаць іх яшчэ болей! На гэта ёсьць некаторыя даныя, але аб іх другім разам.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Найвышэйшая адзнака.** З прычыны прызнаньня чэхамі аўтаноміі Славакіі, быў выпушчаны з вастрогу ведамы славацкі дзяяч праф. Тука, якога ў роднай Славакіі прывітаў ад імя славацкага ўраду міністар Дурчанскі. Вітаючы праф. Туку, міністар заявіў, што нацыянальная славацкая ідэя, за якую змагаўся і цярпеў праф. Тука, перамагла, а перамагла затым, што апіралася на асновах справядлівасьці і праўды. Гэтая перамога ёсьць нагародай за ўсе цярпеньні, якія перанёс праф. Тука.

Адказваючы на гэтае прывітаньне, праф. Тука між іншым сказаў так: „Доля надзяліла мяне найвышэйшай адзнакай, бо я мог цярпець за народ. У маім цярпеньні было для мяне здаваленьнем тое, што славацкі народ гэтак геройска і нязломна працаваў і змагаўся на ніве, на каторай я паў. Калі я даведаўся аб пераварошце, які дакanaўся ў жыцьці народу, я меў толькі адно жаданьне: узяць удзел у працы, якая цяпер чакае славакаў. Праз здабыцьцё свабоды змаганьне яшчэ ня скончылася. Гісторыя нас вучыць, што лягчэй свабоду здабыць, чым яе ўдзяржаць. Падзеі ў Эўропе ідуць так скора, што падаюць нават вялікія народы, якія ня могуць дадзяржаць тэмпа. Мусім натужыць усе сілы дзеля ўтрыманьня народу, помнячы аб тым, што мусім выканаць большую працу, чым вялікія народы, каб дайсьці да нашай мэты“.

Словы праф. Тукі аб найвышэйшай адзнацы і працы для народу варты вялікай увагі.

**Сіла нацыянальнай ідэі.** Міністар Квяткоўскі ў Пазнані сказаў (30.X.38) прамову, у якой было шмат глыбокіх і жыцьцёвых думак. Між іншым мін. К. зьвярнуў увагу на сілу нацыянальнай ідэі, кажучы, што хто яе ня бачыць, ёсьць палітычным сьлепаком. „Век 20-ты ёсьць векам сільна разбуджанага нацыяналізму. Вялікая вайна і вялікі гаспадарчы крызыс прычыніліся ізноў да вялікага ўздойму хвалі нацыяналізму. Не ашуквайма сябе: гэта ён выклікае ў гэтым стагодзьдзі найглыбейшыя палітычныя перамены. Тое, што ў апошніх хвілінах разыгрывалася на грунце б. Аўстрыі і Чэхаславаччыны, тое, што ўжо дрыгае жыцьцём у многіх каляніяльных краёх, гэта ўсе пускае ў рух сяньня мотар нацыяналізму. Гэта ёсьць новы дынамічны рух, каторы ўжо выйшаў на сусьветную арэну і адыгрывае першарадную ролю“.

Гэтыя словы мін. К. пацьвярджаюць нашы пагляды аб жыцьцёвасьці нацыянальных праблемаў, перад якімі ўступаюць нават сацыяльныя і эканамічныя. Толькі, ці п. міністар зробіць з гэтых слоў адпаведныя практычныя вывады?

У другім месцы сваей прамовы мін. К. так схарактэрызаваў сучаснае палажэньне: „Жывём у гады глыбокіх і небясьпечных перамен, каторыя будуць імкнуцца да выраўнаньня аграмадных культурных, цывілізацыйных, грамадзкіх, гаспадарчых і арганізацыйных розьніц паміж многімі народамі і краямі ў сьвеце. Але той, хто ня будзе прыгатоўлены да ўспрыняцьця гэтых зьмен і пératварэньня іх на ўласныя вартасьці, на ўласную сілу, той станецца пагарды і забыцьця годнай ахвярай гэтага гістарычнага працэсу, устанаўляючага ў канвульсіях новы сусьветны статут на новыя стагодзьдзі“.

Разумныя словы. Яны могуць быць аднесены і да беларусаў. Сапраўды ў нейкіх страшных канвульсіях родзіцца новы парадак сьвету! Ня толькі ў Гішпаніі, Кітаі, Нямеччыне, Саветах, Чэхаславаччыне, Палестыне, але і тут і там у нутры беларускага народу!

**Спыненьне «Przeglądu Wileńskiego».** Ад 1921 году выходзіў у Вільні пад рэдакцыяй грам. Л. Абрамовіча польскі часапіс «Przegląd Wileński». Стаяў ён на грунце „краёвым“, г. зн. бараніў самабытнасьці краю і роўных правоў для ўсіх населяючых край народаў: палякоў, беларусаў, літоўцаў, а нават жыдоў і стараввераў, праводзіў думку Ягайлавічаў і ўскрашаў ідэю Вял. Княства Літоўскага, шырокай фэдэрацыі і г. д. У мінулым годзе выйшла некулькі нумароў, але бадай усе яны былі канфіскаваны, у гэтым годзе два і тыя былі канфіскаваны, у тым ліку і апошні, разьвітальны. Бязупынныя канфіскаты а такжа хвароба рэдактара прымусілі спыніць выдавецтва.

Для краёвай думкі гэта вялікая страта.

# АБ „ПАЗЫКАХ“ І АБ ДЗЕВЯЦІГАДОВЫМ ПАЭЦЕ Ў „КАЛОСЬСІ“.

Трапіў мне ў рукі № 1 украінскага навукова-літаратурнага месячніка „Дзвони“ з 1938 г. Зацікавіў мяне артыкул д-ра Васіля Пачовськага „Грузія та її епопея“, прысьвечанага 750 лецьцю паэмы грузінскага паэта Шота Руставелі — „Віцязь у тыгравай скуры“. Перабягаю вачмі радкі, чытаю:

> Ґрузія — старовинна Кольхіда, знана з казки про Язона і золоте руно, сонешна країна потойбіч Кавказу, над Ріоном і Курою.. (бач. 19).

Думаю сабе — нешта знаёмае, нядаўна чытанае, і нават пабеларуску... Дзе-ж гэта магло быць“?.. З беларускіх часапісаў прысьвяціла Шоце Руставэлі свае бачыны „Калосьсе“. Заглядаю туды. У № 2 с. г. ёсьць артыкул, падпісаны самым рэдактарам Я. Шутовічам: — „Вялікі грузінскі паэт і яго паэма“. — Пачынаецца так:

> Сонечная Грузія — старасьвецкая Кольхіда, ведамая з казкі пра Язона і залатое руно, краіна,— раcпаложаная над Ріонам і Кураю, з таго боку Каўказу... (бач. 101).

Што за дзіўная згоднасьць сказаў і слоў у двох аўтараў! Чытаю ўважна абодва артыкулы далей. У „Дзвонах“:

> Основа поеми — велика істина, що людина знаходить щастя тільки в постійній боротьбі, зберігаючи вірність і сталість... (бач. 21).

У „Калосьсі“:

> Асноўнай ідэяй паэмы — вялікая праўда, што чалавек знаходзіць шчасьце толькі ў паступовай барацьбе, зьберагаючы вернасьць і сталасьць... (б. 103).

У „Дзвонах“:

> ...поет Руставелі став передвісником гуманістичного руху, що охопив опісля Европу. Поет славить лицарскість, шляхетність, проповідуэ волю індивідуальности, рівність жінкі з мужчиною... (б. 21).

У „Калосьсі“:

> Паэт славіць рыцарскасьць, шляхотнасьць, прапаведуе волю індывідуальнасьці, роўнасьць жанчыны з мужчынаю. Праз гэта стаўся Руставэлі прадвесьнікам гуманізму, што ахапіў пасьля ўсю Эўропу. (б. 103).

І гэтак далей... Што гэта? Прыпадак? Не — прыпадак тут немагчымы! Праўджаю даты. Артыкул дра Пачовськага друкаваны ў № 1-2 месячніка „Дзвони“ — значыцца на пачатку сялетняга году. Артыкул рэд. Я. Шутовіча надрукаваны ў № 2 квартальніка „Калосьсе“, каторы выйшаў ў палавіне 1938 г. Справа робіцца яснай і... прыкрай. Па твары прабегае хваля стыду, перад чужымі за сваіх, за свой беларускі часапіс. „Пазыка“ рэдактара „Калосься“ зробленая ў дра Пачовськага і падпісаная (трэба прызнаць тут „цывільную адвагу“) поўным собскім прозьвішчам, занадта ўжо кідаецца ў вочы. Перастаўляньне слоў ці сказаў, ці благі пераклад дзеля нязнаньня ўкраінскай мовы (**постійній** пабеларуску значыць не **паступовы,** а сталы, пастаянны!) ня можа тушаваць факту. Стыдна, вельмі стыдна!

Але недзе ў закутку сьведамасьці баранілася яшчэ думка — пацеха: „ня ўсё-ж сьпісана; ёсьцьжа сказы і самастойныя, каторых ня можна знайсьці ў „Дзвонах“. Але дарэмна, бо і гэная крошка маральнай пацехі ня доўга ўтрымалася...

Перада мною якраз № 1 „Полымя Рэволюцыі“ з 1938 г., беларускага месячніка, што выходзіць у Менску. Ёсьць там артыкул Віт. Вольскага „Шота Руставэлі“. Вольскі піша:

> Яго твор захапляе нас сілай і глыбінёй пачуцьцяў, вялікай культураю, шырынёй сьветапагляду, багатай зьмястоўнасьцю, палітычнай накіраваннасьцю, тонкай сюжэтнай апрацоўкай, бліскучай формай цудоўнага верша. (б. 149).

Рэд. Шутовіч у „Калосьсі“ паўтарае:

> Твор гэты выражае сілу і глыбіню пачуцьцяў, шырыню сьветапагляду і вялікую культуру аўтара, адзначаецца тонкай сюжэтнасьцю і бліскучай формай цудоўнага верша. (б. 102).

Вольскі піша:

> . . . твор глыбока нацыянальны па свайму зьместу, па сва-

# На беларускім ґрунце

### „БЕЛ. ФРОНТ“ ПАВІНЕН СТАЦЦА ДВУТЫДНЁВІКАМ.

Рэдакцыйная калегія „Бел. Фр.“ на паседжаньні 30.X.38 пастанавіла, калі будзе магчымасьць, ад новага 1939 году рэалізаваць думку выдаваньня газэты два разы ў месяц. З гэтай мэтай пастаноўлена зьвярнуцца да ўсіх грамадзян беларусаў з адозвай, просячы памагчы ў гэтай справе акуратнымі месячнымі або гадавымі складкамі. Адозву друкуем у гэтым нумары.

### КАНФІСКАТА і СУДЫ.

Мінулы н-р 10 „Бел. Фронту“ быў сканфіскаваны за весткі, адносна якіх Віл. Гарадзкое Старасства закінула, што гэта ёсьць перадрук з сканфіскаванага артыкулу. Рэдактар нашага часапісу падаў у Акружны Суд выясьненьне, што гэта быў перадрук з акту абвінавачаньня.

На дзень 28.X.38 у Віл. Гар. Судзе была вызначана справа з арт. 170 (пашыраньне фальшывых вестак, могучых выклікаць публічны неспакой) за артыкул „Загад зраханьня беларускіх брамаў („Бел. Фронт“ № 7 з дня 5.VII.38). Абвінавачаны кс. В. Гадлеўскі прасіў Суд адлажыць справу дзеля пакліканьня сьведак, якія-б сьцьвердзілі праўдзівасьць пададзеных у артыкуле фактаў. Суд прыхіліўся да просьбы абвінавачанага і справу адлажыў.

Як паведамлялася ўжо ў папярэднім н-ры „Б. Фр.“, рэдактар нашага часапісу кс. В. Г. быў апраўданы (27.IX.38) Віл. Гар. Судом за артыкул „З жыцьця вёскі“ (№ 5 „Б. фр.“ сёлета), аднак ад апраўдываючага прысуду пракурор падаў апэляцыю. Справа ўжо вызначана і будзе разглядацца ў Віл. Акружным Судзе 24 лістапада сёлета.

### У БЕЛ. СТУДЭНТАЎ.

Поміма цяжкіх варункаў бытаваньня беларускага народу, ня гледзячы на шматлікія перашкоды, рады існуючых на віленскім грунце беларускіх студэнцкіх арганізацыяў з кожным годам пабольшываюцца новымі, ахвочымі да працы маладымі сіламі, і што цікава, пераважна абсольвэнтамі польскіх гімназіяў. Збольшанае новым прыплывам сілаў зарганізаванае беларускае студэнцтва распачало ўжо працу. 22 кастр., пры перапоўненай аўдыторыі, ў прысутнасьці п. Куратара праф. Др. Э. Кошмідэра і прадстаўнікоў ад украінскага студэнцтва, адбыўся традыцыйны „Інаўгурацыйны вечар“ працы Бел. Студ. Саюзу.

Выкананьне праграмы „Вечару“ стаяла на даволі высокім узроўні, складалася на яе: уступнае слова старшыні Б. С. С., рэфэрат і дэклямацыі. Прэлегэнт — студ. І. Ярошка падаў гістарычны нарыс удзелу бел. студэнцтва ў працы над адраджэньнем нашага народу. Не ўсцярогся, праўда, ён пэўнай тэндэнцыйнасьці ў асьвятленьні навейшых часоў, — але тэндэнцыя гэтая да пэўнай меры вытлумачальная характарам „Вечеру“.

29. X—с. г, Б. С. С. зладзіў запазнаўчую гарбатку, ў часе якой сказаў нацыянальна-моцную прамову былы старшыня Б. С. С. М. Шчорс, заклікаючы беларускі студэнцкі маладняк да актывізацыі і большай дынамікі ў працы над рэалізацыяй нацыянальных ідэалаў нашага народу.

Шчырасьць жаданьняў найлепшых вынікаў у працы на ніве поўнага адраджэньня Бел. народу чулася ў моцных славах прамоўцаў, прадстаўнікоў запрыязьненых з Б. С. Саюзам арганізацыяў Украінскага і Літоўскага студэнцтва. На заканчэньне студ. В. Папуцэвіч у прыгожай форме падчыркнуў вялікае значэньне таварыскага мамэнту ў арганізацыйным і агульна-грамадзкім жыцьці кожнага народу ў агульнасьці, а беларускага ў прыватнасьці.

Гарбатка скончылася мілагучнымі акордамі нова-згарманізаваных Кошыцам і Гайвороньскім (якім сабраныя аднагалосна пастанавілі выслаць словы ўдзячнасьці і прывітаньня) нашых песьняў, астаўляючы ў прысутных прыемныя і глыбокія ўражаньні.

Пэўным дысонансам у згармнізованай цэласьці гэтых дзьвух імпрэзаў была (дэлікатна кажучы) нястача думкі і няўдаласьць у уступных славах старшыні Б. С. С. студ. А. Дасюкевіча—якому трэба пажадаць, каб перад выступленьнямі да іх адпаведна падрыхтоўвоўся, а не рабіў з сябе прадмету гумарыстычных дацінкаў і гэтым самым не кампрамітаваў арганізацыі, якую дзякуючы тым ці іншым абставінам, мае гонар рэпрэзантаваць.

Наагул трэба пажадаць, каб падобная атмасфэра, якая вытварылася на гэтых імпрэзах і надалей лунала сярод студэнцкага маладняка.

# АДОЗВА

## ДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗЯНСТВА.

Беларусы! Ужо трэці год, як выдаём наш часапіс „Беларускі Фронт“. Выходзіць ён, як на сяньняшнія часы, калі ўсё увакруг кіпіць і нясе вялікія перамены, даволі рэдка, бо толькі раз у месяц. Тымчасам сяньняшнія сусьветныя падзеі вымагаюць, каб выдаваць газэту часьцей. Хоць „Бел. Фронт“ у сваім месячным аглядзе заўсёды стараўся даць магчыма поўны і ўсебаковы агляд беларускай і міжнароднай палітыкі, аднак з усіх бакоў да нас даходзілі і даходзяць весткі і жаданьні, што месячнага агляду мала; што калі ўжо няма магчымасьці выдаваць газэту раз у тыдзень, то каб выдаваць прынамся раз у два тыдні, даючы за кожныя два тыдні салідныя і паважныя агляды міжнароднага палітычнага жыцьця наагул, а беларускага ў асаблівасьці.

Бяручы пад увагу гэтыя жаданьні нашых чытачоў, а такжа сучаснае міжнароднае палажэньне і патрэбы беларускага народу, рэдакцыйная калегія „Бел. Фронту“ зварочваецца да ўсіх беларусаў з просьбай памагчы ў выдаваньні „Бел. Фронту“, каб ён выходзіў прынамся два разы ў месяц. Грамадзяне, не зварочваемся да чужых, але да сваіх, бо хочам быць і надалей незалежнымі ад чужых сілаў і свабоднымі ў выказваньні сваіх думак і паглядаў; хочам бараніць ня чужых, але сваіх, беларускіх, інтарэсаў. Дзеля гэтага будзем дзяржацца незалежніцкай беларускай лініі; будзем змагацца за палітычныя, культурныя, эканамічныя і грамадзкія інтарэсы беларускага народу і яго правы; будзем стаяць і далей на грунце каапэратывізму, клічучы ўсе жывыя беларускія сілы да супрацоўніцтва на эканамічнай, культурнай і палітычнай ніве. Побач з гэтым будзем падаваць за кожныя два тыдні агляды міжнароднай палітыкі, маючы на воку палітыку беларускую. Уважаем, што беларуская газэта павінна сыгналізаваць аб усіх праявах, якія датычаць беларускага народу і Беларусі.

„Бел. Фронт“ выдаецца за месячныя і гадавыя складкі сябраў і сымпатыкаў нашага кірунку і беларускае справы. Дык зварочваемся да ўсіх беларусаў, якія адчуваюць патрэбу існаваньня сапраўды незалежнага беларускага органу, памагчы нам сваімі месячнымі і гадавымі складкамі. Пры Вашай помачы ад Новага 1939 году думаем выдаваць „Бел. Фронт“ два разы ў месяц. Пры наступным (сьнежнявым) нумары будуць разасланы пры нашай газэце „разрахунковыя пераказы“, якімі зможаце пераслаць нам сваю помач.

Дык няхай у гэты важкі час „Бел. Фронт“ стане двутыднёвікам! Гэта залежыць ад Вас, Грамадзяне Беларусы!

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ „БЕЛ. ФРОНТУ“.**

30.X.1938 г.

### СЬМЕРЦЬ Д-РА ТУРОНКА.

У канцы верасьня сёлета памёр у Дукштах, Брасл. пав. др. Браніслаў Туронак. Будучы студэнтам, прыймаў даволі дзейнае ўчасьце у беларускім нацыянальным і грамадзкім жыцьці, пасьляж, здабыўшы дыплём доктара мэдыцыны і становішча, ад бел. працы адыйшоў. Хоць частка бел. прэсы пасьля сьмерці дра Т. пісала аб ім пахвальныя словы, то справядлівасьць вымагае сьцьвердзіць, што др. Т. да самай сьмерці аставаўся ў радох бязьдзейнай бел. інтэлігенцыі. Уважаем, што замест пахвальных гімнаў трэба праўду пі-

---

ёй мове, па сваёй накіраваннасьці... Яго паэма дзякуючы бліскучай дасканальнасьці сваёй формы, філасофскай глыбіні зьместа, высокай ідэйнасьці, сіле і выразнасьці вобразаў і чалавечых пачуцьцяў выходзіць за межы нацыянальных рамак і набывае сусьветнае значэньне. (б. 150).

А Шутовіч, як звонкае, гучнае рэха, паўтарае:

Твор глыбока нацыянальны па сваім зьмесьце, па мове, па сваёй накіраванасьці, а дзякуючы дасканальнасьці формы, філёсофскай глыбіні зьместу, высокай ідэйнасьці, сіле і выразнасьці вобразоў і чалавечых пачуцьцяў, выходзіць паза межы нацыянальных рамак і набывае сусьветнае значэньне... (б. 102).

І гэтак далей...

Такім парадкам праз „пазыкі“ робяцца артыкулы — з двох адзін! На бітых дзьвёх з гакам бачынах друку ў стацьці пра Руставэлю ў „Калосьсі“ няма ніводнага саматужнага сказу, ніводнай собскай думкі, — усё жыўцом узята з Пачовськага або Вольскага. Дый на гэтым яшчэ не канец. У падзагалоўку свайго артыкулу рэд. Шутовіч піша „Да 750 гадаўшчыны нарадзін поэта“. Далей у артыкуле чытаем, што гэная „750 гадаўшчына нарадзін“ Шота Руставэлі была летась і што „Калосьсе“ піша пра гэта з гадавым апазьненьнем. Яшчэ далей гр. Шутовіч зазначае, што твор Шота Руставэлі — паэма „Віцязь у тыгравай скуры“ — напісана, прыблізна паміж 1196—1207 гадамі“.

Цяпер крыху звычайнай арытмэтыкі: ад 1937 адняць 750 = 1187. Значыцца, паводле „Калосься“ Шота Руставэлі радзіўся ў 1187 годзе, і — як падае рэд. Ш. далей, ўжо ў гадох 1196 — 1207 ён напісаў сваю аграмадную паэму — эпопэю. Выходзіць, што гр. Шутовіч дапушчае, што Руставэлі пачаў пісаць паэму маючы... 9 гадоў, а кончыў не пазьней, як у дваццатым годзе свайго жыцьця. Сапраўднае „Wunderkind“ — цудоўнае дзіця гэты Руставэлі! Скуль тут такая недарэчнасьць? Можа звычайная карэктарская памылка? Нажаль — не. Справа ў тым, што ўвесь сьвет — апрача „Калосься“ — у 1937 г. абыходзіў 750-лецьце **паўстаньня** паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“, а не Руставэлявых нарадзін. Год нараджэньня вялікага Шота Руставэлі нікому, апрача рэдактара „Калосься“, да гэтай пары нязнаны, таму яго ніхто і не абходзіць. Рэдактар „Калосься“, такі ўважны перапішчык чужых артыкулаў, ня мог неяк заўважыць таго, што др. Пачовській піша аб сьвяце „750 роковин **появи** національної епопеї“ пера Шота Руставелі“.., што ў хроніцы таго-ж нумару „Полымя Рэволюцыі“ многа пішацца аб „Сьвяткаваньні 750-годзя **з дня зьяўленьня** паэмы Шота Руставэлі“.

Столькі трагікамічных і разам вельмі прыкрых фактаў! А цяпер раззажна ўсе гэта глыбей. „Калосьсе“ — адзіны (як часта рэклямуецца) беларускі літаратурна-навуковы часапіс. Мімаволі (ці беларусы гэтага хочуць, ці ня хочуць) часапіс гэты да пэўнай меры рэпрэзэнтуе беларусаў на вонкі. А як рэпрэзэнтуе? — Выабразіце сабе нейкага літаратара ці навукоўца, чужынца, які чытае ў „Калосьсі“ аб гадавіне нарадзін Шоты Руставэлі ў той час, калі па ўсім сьвеце абыходзяць акурат гадавіну паўстаньня ягонай паэмы!..

Разыходзіцца „Калосьсе“ і сярод украінцаў — землякоў дра Пачовськага, заменныя экзэмпляры мусіць атрымліваюць і ўкраінскія літаратурна - навуковыя часапісы, між імі пэўне ёсьць і тыя-ж „Дзвоны“. І цяпер прадстаўце сабе, як выглядае ў іх вачох беларускае „Калосьсе“ і ягоны рэдактар (а адначасна і „аўтар“) гэнага няшчаснага артыкулу! Якое могуць мець чужынцы выабражэньне аб нас, беларусах—чытачах „Калосься“, якіх рэдактар безадказна корміць агрызкамі чужой творчасьці, падаючы іх за свае. Немагчыма маўчаць і пазваляць, каб і далей у беларускім друку паяўляліся такія скандальныя рэчы. Трэба падняць гэтую справу самым, бо горш будзе, калі аб гэтым пачнуць пісаць чужыя.

Цікава, як на гэтую „работу“ рэдактара глядзіць рэшта рэдакцыйнай калегіі „Калосься“? Няўжо нічога ня ведае? А калі ведае, дык чаму не пратэстуе? Мы ўважаем, што без пратэсту перайсьці над гэтай справай ня можна!

**Кніжнік.**

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

Як месяц верасень быў поўны ваенных пагрозаў, так кастрычнік — дыпляматычнай ігры. Пры помачы дыпляматычнай ігры творацца саюзы новыя, разьбіваюцца старыя, падлічваюцца сілы, будуюцца пляны, абстаўляюцца суседзі, а нават дзеляцца дзяржавы! Дзеля гэтага трэба зорка сачыць, хто з кім і процiў каго! Трэба таксама дасьледжваць мэты і імкненьні кожнай дзяржавы, якая „засела“ да ігры. Дзеля гэтага мы ня так зварочваем ўвагу на паасобныя выпадкі і іншую дробязь у палітыцы, як на **мэты і пляны дзяржаў,** а такжа на іх магчымасьці і іх саюзьнікаў. Паасобныя факты толькі тады маюць значэньне, калі з іх можна здагадацца аб мэтах нейкай дзяржавы.

У кастрычніку адбывалася вялікая дыпл. ігра каля Чэхаславаччыны, асабліва каля Закарпацьця. Гэтай ігры мы пасьвячаем шмат месца ў артыкуле „Пасьля падзелу Чэхаславаччыны“, а трохі дапоўнім ніжэй. Гэтакая-ж ігра адбывалася паміж Італіяй і Англіяй; паміж Нямеччынай і Францыяй, паміж Нямеччынай і Англіяй і г. д. Апроч гэтага ў кастрычніку здарыліся такія важныя выпадкі, як узяцьце японцамі двух кітайскіх сталіцаў: Кантону і Ганкоў і рашучае паўстаньне арабаў у Палестыне, з якімі Англія ня можа справіцца.

---

сацць ня толькі за жыцьця бязьдзейнага інтэлігента, але і пасьля ягонай сьмерці—на вечны ўспамін жывучым!

## МАКСІМ ТАНК У ВАРШАВЕ.

Бел. Асьветнае Т-ва ў Варшаве ладзіла 29. X. літаратурны вечар, на каторым быў ведамы бел. паэт М. Танк, а такжа прадстаўнікі польскага Саюзу літаратараў і журналістаў. Вечар зрабіў на ўсіх вялікае ўражаньне. Бел. Асьв. Т-ва будзе ладзіць такія вечары часьцей з мэтай інфармаваньня польскага грамадзянства аб культуральных і грамадзкіх праблемах беларусаў.

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАГА ЯЗЫКА

На гэткую тэму др. Я. Станкевіч 23. XI. прачытаў рэфэрат у Беларускім Навуковым Т-ве. Рэфэрэнт меў наўвеце ня нутраную гісторыю языка, каторай ёсьць развой гукаў і формаў, але гісторыю вонкавую, каторая разглядае долю языка ў розныя поры гісторыі народу. Аўтар падзяліў гісторыю (вонкавую) беларускага языка на гэткія поры: 1) праславянская пара, 2) пара гісторыі апрычонага беларускага языка ад пачатку да XIII стаг., 3) беларускі язык як гаспадарсьцьвены і літаратурны ў Вялікім Княстве Літоўскім (слаўная пара беларускага языка), 4) упадак старабеларускага языка літаратурнага (XVII—XVIII стаг.), 5) беларускі язык народны ў стаг. XVI—XVIII), 6) адраджэньне.

З прыведзенага пералічэньня відаць, што знаёмячыся з гісторыяй беларускага языка, мы ў вагульных рысах знаёмімся з гісторыяй беларускага народу наагул.

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАДУШКІ.

Дня 2. XI. у дзень Задушны віл. беларусы ў вялікай грамадзе былі сабраўшыся на магільніку Росса, каб ушанаваць памяць пахаваных там бел. пісьменьнікаў: К. Сваяка і А. Левіцкага. Ад бел. моладзі былі зложаны на магілах вянкі.

## ДЫПЛЯМАТЫЧНАЯ ІГРА.

**Каля Закарпацьця.** У рэзультаце вялікай дыпляматычнай ігры каля гэтага малога краю, ён быў падзелены паміж Вугрыяй і Чэхаславаччынай. Сталася гэта 2. XI. у Вене на канфэрэнцыі двух дэцыдуючых дзяржаў у сярэдняй Эўропе: Нямеччыны і Італіі, якія ўзяліся разсудзіць спрэчку паміж Вугрыяй і Чэхаславаччынай. І разсудзілі так, што не здаволілі ані аднэй стараны, ані другой. Вугрыя паракае, што да яе не адыйшло ўсё Закарпацьце, а Чэхаславаччына, што да Вугрыі адыйшлі этнаграфічныя славацкія і ўкраінскія тэрыторыі! З гэтага відаць, што Вугрыя мае вялікага пратэктара ў Муссолінім, а Гітлер хоць і пайшоў на ўступкі перад Муссолінім, то ўсёж-такі не дапусьціў да перадачы Вугрыі ўсяго Закарпацьця і да супольнай польска-вугорскай граніцы. Цяпер пры Чэхасл. астаўся толькі вузенькі закарпацкі карыдор, у якім нават няма большых гарадоў (сталіца Закарпацьця, Ужгород, далучаны да Вугрыі!). Праз гэты карыдор Чэх. злучана з Румыніяй і аддзелены ад сябе Польшч і Вугрыя. У Вугрыі ідзе акцыя з мэтай далучыць усё Закарпацьце. З усяго відаць, што дыпл. ігра каля Закарпацьця яшчэ ня скончылася.

Як Вугрыя так і Польшч супольную між сабою граніцу ўважаюць пры сучасным міжнародным палажэньні за галоўную мэту сваей палітыкі. Стварыўшы супольную граніцу, яны палажылі-б бар'ер паміж Нямеччынай і Саветамі і падаваліб сабе ўзаемна помач пры небясьпецы з аднаго або другога боку. Польшч праз злучэньне з Вугрыяй мелаб доступ да Югаславіі і Італіі і будавалаб бар'ер з нэўтральных дзяржаў ад Балтыкі да Адрыятыкі. Нас справа Закарпацьця інтарасуе тым, што яна зьвязана з далейшымі падзеямі на ўсходзе Эўропы.

**Нямеччына-Францыя.** Нямецкая дыпл. ігра зварочвае ўвагу ўсяго сьвету. Цяпер ужо ясным робіцца, што Гітлер на захадзе імкнецца да згоды з Францыяй і Англіяй, а зварочвае свае вочы на ўсход... Паводле англійскай прэсы Гітлер на захадзе ставіць такія пункты-варункі: 1) Нямеччына гварантуе ненарушальнасьць граніц Францыі, 2) гэтаксама ненарушальнасьць Брытыйскай імпэрыі; 3) усе тры дзяржавы агранічваюць уваружэньні ў паветры, 4) Англія і Францыя не заключаюць ніякіх пактаў з Саветамі, 5) Францыя і Англія даюць Нямеччыне вольную руку на Усходзе Эўропы, 6) даўнейшыя нямецкія калёніі, якія цяпер знаходзяцца ў руках Англіі і Францыі, варочаюцца да Нямеччыны. Англійская прэса, абгаворваючы гэтыя пункты, піша, што яны даюць усё Нямеччыне, а нічога Англіі і Францыі. Аднак Гітлер памалу свае пункты рэалізуе і скора, як чуваць, мае быць падпісаны паміж Ням. і Францыяй пакт, паводле якога абедзьве дзяржавы выракаюцца вайны, а ўсе спрэчкі паміж сабою маюць вырашаць мірным спосабам... Гэтае самае робіцца з Англіяй з якой Ням. шукае саюзу. Ад усякіх неспадзевак на захадзе мае бараніць Нямеччыну лінія „Зыгфрыда“, аб магутнасьці якой ходзяць проста легендарныя весьці.

Шукаючы згоды на Захадзе, Нямеччына шукае дарог на Балканы і творыць г. зв. **„Балканскую вось“**: Югаславія—Баўгарыя—Турцыя. На пачатак гэта вось мае эканамічнае значэньне: Ням. будзе купляць у гэтых дзяржаў земляробскія прадукты, а тыя ў Нямеччыны—фабрычныя. Ужо падпісаны адпаведныя трактаты. Але кожны ведае, што за эканамічнымі справамі ідуць палітычныя, дык у прэсе выразна пішацца, што Ням. праводзіць там сваю старую лінію (на Багдад) і бярэ Балканы разам з Турцыяй пад свае ўплывы. Магчыма, што ў вугорска-чэскім споры Ням. не хацела дражніць ляжачую на балканскай дарозе Вугрыю і згадзілася аддаць ей часьць Славакіі і Закарпацьця.

Цікавая яшчэ дыпл. ігра **Нямеччыны з Літвою.** Як мы ўжо падавалі ў папярэднім н-ры „Б. Фр.“, Нямеччына мела запрапанаваць Літве пакт ненападаньня, з тым варункам, што Літва адрачэцца ад саюзу з Саветамі і парве гандлёвы дагавор з Англіяй, навязваючы такі-ж з Ням. Доўга на гэту вестку ня было ніякага водгуку, а толькі ў канцы кастрычніка зьявілася заява з боку Літвы, што ніякіх перагавораў з Ням. ня было! Пасьля гэтай заявы пайшлі весткі, што Нямеччына тасуе адносна Літвы „судэцкую тактыку“, так як у сваім часе тасавала яе адносна Чэхаславаччыны і хоча адабраць ад Літвы Клайпэду! Потым прыйшлі весткі аб зьезьдзе клайпэдскіх немцаў у Кэнігсбэргу, аб іхных дамаганьнях, а разам з гэтым разыйшліся чуткі аб перамене курсу літ. палітыкі ў кірунку збліжэньня да Польшчы, аб зьмене статуту „Саюзу вызваленьня Вільні“ — словам аб блізкай поўнай згодзе паміж Літвою і Польшчай... Калі-б гэта сталася, мы былі-б сьведкамі сапраўды вялікіх зьмен у літ.-польскіх адносінах! Тымболей, што мін. Бэк афіцыяльна заявіў, што Польшч не дагаварвалася з Нямеч. аб падзеле Літвы.

Ігра **Італія-Англія** адбываецца вельмі спраўна і з відавочнымі рэзультатамі. Каб здабыць ад Англіі прызнаньне захвату Абісыніі і закладзін Італійскай імпэрыі. Італія адклікала з Гішпаніі 10 тысяч сваіх „ахвотнікаў“. Іх пералічылі ў прысутнасьці англ. дыплямата, калі яны выяжджалі з Гішпаніі, пералічылі, калі яны прыехалі ў Італію—праўда, роўна 10 тысяч! Апроч гэтага Італія заявіла яшчэ раз, што яна ня мае на меце ў Гішпаніі нейкіх тэрыторыяльных здабычаў. У рэзультаце гэтай італійскай ігры Англія прызнала за Італіяй Абісынію і пацьвярдзіла пакт, заключаны з Італіяй некалькі месяцаў таму... Але памылкай было-б думаць, што Італія адкліча ўсіх сваіх ахвотнікаў з Гішпаніі; не, яны там у большасьці астаюцца і памагаюць генэралу Франко біць „чырвоных“ (у апошнім тыдні якраз пачалося наступленьне паўстанцаў над ракою Эбро). Англія аб гэтым ведае, але прыціснутая ў Эўропе Намеччынай, а на Дал. Усходзе Японіяй, шукае згоды з Італіяй, ня гледзячы на тое, што можа паўстаць ля Гібралтару фашыстоўская Гішпанія. Але гэта дробязь, раўнуючы з тым, што гразіць Англіі з боку Нямеччыны і на Дал. Усходзе.

## НА ДАЛ. УСХОДЗЕ.

Сувязь паміж падзеямі на Блізкім Захадзе і на Далёкім Усходзе відавочная. Калі Японія пабачыла, што Англія ў Эўропе ўступае, рашыла заняць сталіцу паўдзённага Кітаю — Кантон, цесна зьвязаную з англ. інтарэсамі. Трэба ведаць, што каля Кантону на выспе ляжыць вялікі англ. горад Гонк-Конг, праз які ў Кітай ішлі англ. тавары і ваенныя прылады. Кантон быў пасярэднікам паміж Кітаем і Гонк-Конгам. Японія ўжо здаўных хацела заўладаць Кантонам, але баялася ўгнявіць Англію. Але калі пабачыла, што Англія ня такая страшная і ўступае ў Эўропе, высадзіла каля Кантону 50 тысяч сваей найлепшай змотарызаванай арміі і гэта армія ў працягу 10 дзён разагнала 300 тысяч кітайцаў, якія былі пакінуты Чанг-Кай-Шэкам дзеля абароны Кантону. Заняты Кантон налічвае мільён 200 тысяч насельніцтва! Праўду кажучы, кітайцы нават ня біліся з японскімі танкамі і бранявікамі, а проста ўцякалі; толькі 3 тысячы змотарызаванага кітайскага войска пробавалі проціўставіцца японцам і, трэба сказаць праўду, згінулі з чэсьцю, а не адступілі. Зараз пасьля ўзяцьця Кантону паў і Ганкоў, другая пасьля Нанкіну сталіца сярэдняга Кітаю, а Чанг-Кай-Шэк перанёс сваю сталіцу ў далёкі Чунг-Кінг, але здавацца ня думае. Кажуць, што Ганкоў бараніла каля 2-х мільёнаў кітайцаў. Нястача тэхнікі не дала ім магчымасьці проціўставіцца японцам. Вайна далей ідзе. Чанг-Кай-Шэк ня могучы ўстаяць перад японцамі ў франтовым баю, пераходзіць на партызанку. Дзеля гэтага вайна ў Кітаі можа патрываць яшчэ нейкі час. Японія йдзе да стварэньня вялікага японска-кітайска-манджурскага блёку, які-б даў ей панаваньне над Азіяй. Ад гэтай мэты адступіць не пазваляе ёй дзяржаўны прэстіж і, здаецца, яна яе зрэалізуе.

## САВЕТЫ.

У Саветах ізноў насьпеваюць вялікія падзеі. Ужо адсунуты ад улады Ежоў (наступнік Ягоды), недзе згінуў Блюхер (кажуць, што яго выклікалі ў Маскву і арыштавалі), адбываюцца вайсковыя бунты на Дал. Усходзе, Украіне і Беларусі. Ежову закідаюць, што правёў лішне вострую чыстку, якой здэзарганізаваў дзяржаўны апарат, а Блюхеру — яго няўдачы ў змаганьні з японцамі за Чанг-Ку-Фэнг і проціўсталінскія выступленьні. На месца Блюхера назначаны Штэрн (жыд). Нутраное змаганьне розных груп у самой компартыі робіць Саветы няздольнымі і да вонкавага змаганьня. На міжнароднай арэне павага Саветаў натолькі ўпала, што з імі ня лічацца як з рэальнай сілай.

---



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

**інж. Л. Дубейкаўскі,**
**мгр. В. Гадлеўскі,**
**мгр. М. Шкялёнак,**
**студ. В. Папуцэвіч.**

Адказны рэдактар:

**мгр. В. Гадлеўскі.**

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ.

Друкарня М. Багаткевіча і В. Труцько. Вільня, вул. Ад. Міцкевіча 22-а.